*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*




# Наша слова





Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 25(462) 28 ЧЭРВЕНЯ 2000 г.



## Кузьме Чорнаму – 100

24 чэрвеня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка Кузьмы Чорнага

25 чэрвеня споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння народнага паэта Беларусі

## Петруся Броўкі



## Шануйце мову беларусаў!

**(Зварот Чэрыкаўскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны да жыхароў горада і раёна)**

Душа кожнага чалавека прагне нечага высокага, узнёслага, таямнічага і роднага. Таму што без гэтага яна проста існаваць не зможа. У кожнага беларуса ёсць свая святыня – мова. Тая самая, на якой мы размаўляем, пішам вершы і апавяданні, праз якую перадаем сваю любоў і адданасць нашай любай Бацькаўшчыне.

Мова продкаў... Якая цяжкая ў яе гісторыя! Палітыка русіфікацыі і апалячвання, якая ў розныя часы праводзілася на Беларусі, прывяла да таго, што наша мова пачала знікаць з паўсядзённага ўжытку, са сродкаў масавай інфармацыі, са школ, тэхнікумаў, універсітэтаў. І асабліва напаткала такая доля Усходнюю Беларусь.

Але мы, нашчадкі Вялікага княства Літоўскага і Беларускай Народнай Рэспублікі, заклікаены абараніць нашу пявучую, сакавітую і паэтычную мову, узняць высока, да самых нябёсаў, бел-чырвона-белы сцяг беларушчыны.

Мы звяртаемся да ўсіх, каму дарагая беларуская мова, далучыцца да дзейнасці нашай арганізацыі, а настаўнікам і работнікам культуры, як мага больш служыць беларускай ідэі. Тэлефануйце нам па тэлефону: 2-28-61, або прыходзьце персанальна па адрасу: вул. Савецка, дом 7 (рэдакцыя раённай газеты "Заклік Ільіча", другі паверх, метадычны цэнтр аддзела культуры).

Жыве Беларуская мова!

Мы любім бязмежна сваю Беларусь!

***Станіслаў Хахлоў,** старшыня Чэрыкаўскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы, старшыня раённага клуба творчай інтэлігенцыі "Натхненне".*



## Атрыманы дазвол на правядзенне Кангрэсу дэмакратычных сілаў

Арганізацыйны камітэт Кангрэсу дэмакратычных сілаў (КДС) атрымаў дазвол з Мінгарвыканкаму на паравядзенне гэтай усебеларускай акцыі. КДС пройдзе ў Доме культуры "Сукно" (вул. Матусевіча, 20) - традыцыйным месцы правядзення форумаў дэмакратычных арганізацыяў. Ліст з дазволам падпісаў намеснік старшыні гарвыканкама В. Чыкін.

Нагадаем, што асноўныя тэмы Кангрэсу - стаўленне дэмакратычных сілаў да мяркуемых парламенцкіх выбараў увосень 2000 г., тактыка на магчымых прэзідэнцкіх выбарах, формы аб'яднання дэмакратычных сілаў. Старшынём арганізацыйнага камітэту абраны Юры Хадыка, намеснікам старшыні - Мечыслаў Грыб. Кіраўнік сакратарыяту - Вячаслаў Сіўчык. На чале рэдакцыйнай камісіі - Аляксандар Дабравольскі, мандатнай - Анатоль Сідарэвіч.

Мяркуецца, што Кангрэс збярэ каля 800 дэлегатаў з усёй краіны, якія будуць вылучацца паводле ўсталяваных квотаў. Сваіх прадстаўнікоў будуць мець палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі, прафесійныя саюзы, рэгіёны краіны, а таксама - навуковая і творчая інтэлігенцыя.

## Сустрэча ў Горках

8 чэрвеня 2000 года, старшыня ТБМ Алег Трусаў у рамках семінара "Беларуская нацыянальная ідэя: гісторыя і сучаснасць" выступіў перад настаўнікамі раённых і гарадскіх школ Горацкага раёна, а таксама выкладчыкамі Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі з двума дакладамі: "Месца і роля беларускай мовы ў працэсе станаўлення і развіцця беларускай нацыянальнай ідэі" і "Матэрыяльная культура беларусаў і яе роля ў фармаванні нацыянальнай свядомасці".

Гэтыя даклады выклікалі цікавасць у прысутных, было зададзена шмат пытанняў. Некаторыя выступоўцы адзначылі ролю ТБМ у сённяшнім грамадстве, заклікалі актывізаваць падпіску на "Наша Слова" і другія беларускамоўныя выданні. Таксама паспяхова адбылася прэзентацыя новай кнігі Кастуся Тарасава "Крыж Памяці", якая пабачыла нядаўна свет з дапамогай ТБМ.

Наш кар.

## Гарадзенская абласная канферэнцыя ТБМ

25 чэрвеня ў Горадні прайшла абласная канферэнцыя ТБМ. Былі паднятыя пытанні, згодна з павесткай дня (гл. папярэдні нумар).

На Канферэнцыі прысутнічаў старшыня ГА ТБМ імя Францішка Скарыны Алег Трусаў.

На канферэнцыі высветлілася, што ў вобласці перарэгістравана 10 структур ТБМ. Чатыры арганізацыі (Масты, Карэлічы, Воранава, Астравец) патрабуюць толькі арганізацыйных высілкаў, а ў Іўі, Шчучыне, Бераставіцы, Зэльве, Свіслачы, Ашмянах – хоць пачынай усё з нуля.

Спадар Трусаў паведаміў, што па Беларусі зарэгістраваны 52 гарадскія і раённыя арганізацыі. Разам з тым расце рух ТБМ за мяжой. Традыцыйна моцны ён на Беласточчыне, створаны 3 суполкі ў Нямеччыне, суполка ў Коўне, у Вільні ў ТБМ – 152 чалавекі, у Латвіі - 160, пачаўся рух у Калінінградскай вобласці (там трэць насельніцтва – беларусы). Актывізавалі сваю дзейнасць беларускія суполкі у Севастопалі, Палтаве, Кіеве, Львове, Маскве, Англіі, Канадзе, ЗША, Аўстраліі.

Моцна сталі на ногі беларускія арганізацыі ў Іркуцку і Краснаярску.

Усяго сёння ў ТБМ – каля 7000 сяброў.

Да ўдзельнікаў канферэнцыі было даведзена, што рыхтуецца новы ўзор сяброўскага білета ТБМ.

У бліжэйшы час будзе надрукаваны каляндарык з партрэтам Ларысы Геніюш, потым з партрэтам Уладзіміра Караткевіча. На днях чакаецца выхад паштоўкі з выявай Францішка Багушэвіча.

На канферэнцыі былі абраны 5 дэлегатаў на Кангрэс дэмакратычных сілаў 2 ліпеня і 5 дэлегатаў на Усебеларускі з'езд 29 ліпеня.

Па выніках збору падпісаў за БНУ Гарадзеншчына дала каля 10 тысяч (з іх 8 тысяч лідскія). Канчатковыя вынікі будуць падведзены пазьней і абавязкова абнародаваны. Было адзначана, што ўлады супраціўляюцца адкрыццю БНУ, але згодныя шукаць кампраміс. ТБМ цвёрда стаіць за БНУ, але таксама не адмаўляе кампрамісу. Але гэта ўжо – практычная плоскасць.

Была абвешчана гатоўнасць абласной рады аказаць падтрымку раёнам у падпісцы на "Наша слова".

## Некаторыя вынікі падпіскі на другое паўгоддзе на газету "Наша слова" на Гарадзеншчыне

Абласное Таварыства выпісала 63 экз. газеты.

Выказваем падзяку "Саюзу палякаў на Беларусі" – які аказаў дапамогу ў выпісцы газеты "Наша слова" для 36 школ г. Горадні, а таксама грамадзянам г. Горадні за аказаную фінансавую дапамогу ў падпісцы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Жынь К.У. | – 500 р. | Семяновіч Ч.А. | – 1000р. |
| Астроўская Г.М. | – 500 р. | Жукоўскі Г.М. | – 500 р. |
| Макарчык А.М. | – 1000 р. | Брыкач У.І. | – 1000 р. |
| Чабатар М.Н. | – 1000 р. | Стаянаў У.П. | – 1000 р. |
| Чэтырбок М.А. | – 500 р. | Трусянкоў А.В. | – 500 р. |
| Грынчык У.М. | – 1000 р. | Савіцкі В.Я. | – 500 р. |
| Ліпніцкая С.І. | – 500 р. | Якушын А.В. | – 500 р. |
| Бойка Б.Р. | – 500 р. | Навумік М.А. | – 500 р. |
| Турэўская С.Ю. | – 500 р. | Шойпак У.І. | – 500 р. |
| Саўчанкова Г.А. | – 2000 р. | | |
| Ахрымовіч Т.А. | – 1000 р. | | |
| Рунге У.Э. | – 500 р. | | |

*Старшыня абласной рады ТБМ імя Ф.Скарыны А.Місцюкевіч*

Алесь Петрашкевіч

# ПРАГНОЗ НА ПАСЛЯЗАЎТРА

## (Фарс у дзвюх дзеях)

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

*Вельмі ўзбуджана паводзяць сябе прысяжныя.*

**Сапежанка.** Паважаныя прысяжныя засядацелі! Судовы разгляд справы набліжаецца да свайго завяршэння. Вам і толькі вам трэба вынесці свой вердыкт, сваё рашэнне аб вінаватасці падсуднага Каліноўскага. Толькі вы, прысяжныя засядацелі, маеце на гэта права.

На ваша рашэнне не павіны ўплываць нацыянальнасць, мова, паходжанне, веравызнанне, палітычныя перакананні, светапогляд, прыналежнасць да партыі ці грамадскіх аб'яднанняў і іншыя абставіны, што адносяцца да падсуднага, пацярпелага, сведак і іншых асоб.

*Сапежанка і засядацелі*

Вы павінны ведаць, што абвінавачае заключэнне не з'яўляецца доказам віны падсуднага. Вам і толькі вам неабходна будзе рашыць, ці можна прызнаць даказаным абвінавачванне, сфармуляванне ў абвінаваўчым заключэнні.

Вы і толькі вы павінны ацаніць усе доказы, вызначыць, на колькі надзейныя паказанні сведкаў, падсуднага і якія менавіта абставіны ўстанаўліваюцца гэтымі доказамі.

Нельга разглядаць як доказ віны падсуднага арышт і ўтрыманне яго пад вартай.

Заявы, аргументы, прыведзеныя ў ходзе судовага разгляду пракурорам, адвакатам, якія вы чулі ў судовых спрэчках, не з'яўляюцца доказамі. Вы не звязаны заключэннем эксперта. Яно не мае для вас абавязковага значэння.

Ніякая заява аб справе па абвінавачванні грамадзяніна Каліноўскага, якая была зроблена па-за судовым разглядам, у тым ліку ў сродках масавай інфармацыі, не можа ўлічвацца пры вынясенні вамі вердыкту. Кожны з вас павінен ацаніць доказы самастойна, па свайму ўнутранаму перакананню.

Вы маеце права прызнаць вінаватым падсуднага Каліноўскага і вынесці вердыкт толькі пры ўмове, калі цвёрда перакананы ў яго вінаватасці.

Памятайце, што ўсе сумненні тлумачацца на карысць падсуднага! У выпадку ж прызнання падсуднага вінаватым Калегія прысяжных засядацеляў павінна адказаць на пытанне: ці заслугоўвае ён спагады, альбо асаблівай спагады.

Паважаны старшыня Калегіі прысяжных засядацеляў, я перадаю вам апытальны ліст з зацверджанымі мной пытаннямі, на якія павінна адказаць Калегія прысяжных засядацеляў. *(Перадае папку Кацу).*

**Кац.** Няхай нас не міне праўда, разважлівасць і справядлівасць.

**Сапежанка.** З Богам...

*Усе ўдзельнікі працэсу, акрамя прысяжных засядацеляў, пакідаюць свае месцы і выходзяць.*

*Заслона паволі закрываецца. З-за яе чуваць моцны шум, узбуджаныя галасы, нехта беспарапынна звоніць у званок, як у школе перад заняткамі.*

*Заслона паволі адкрываецца. Перад намі дарэчы пакой прысяжных засядацеляў. Гэта менавіта яны ўтварылі такі вэрхал. Сваім званком Фельчар Кац спрабуе іх супакоіць. Выключна спакойна паводзяць сябе толькі Нямцоў-Глушкін і Семиглазова. Яна яму на пальцах перакладае змест дыскусіі прысяжных.*

**Некурвінская.** *(амаль крычыць).* Дайце ж вы мне ўрэшце сказаць ад чацьвёртай улады!

**Егулагов.** Не знаю такой "улады".

**Метростроева.** У нас "улада" одна – рабочего класса...

**Сельсаветава.** І трудавога хрысціянства!

**Отец Сергий.** Христианство, уважаемая, здесь нн при чём.

**Сельсаветава.** Как ета ні пры чом?!

**Отец Сергий.** Церковь отлучена от государства.

**Апякін.** І дарэмна, павінен я сказаць ад імя навуковай і творчай інтэлігенцыі.

**Станкевіч.** Не будзем шкадаваць, а то папы далёка зайшлі б.

**Сельсаветава.** Можна падумаць, что ксяндзы не такія прыткія!..

**Егулагов** *(вельмі рашуча).* Ни клерыкалы, ни дермократы, как опиум для народа, не пройдут! Пока ёще есть такая партия.

**Солдафонов.** Но пасаран!

**Кац.** О, мой Бог! Ну пры чым тут гэта?!

**Солдафонов** *(дражніць).* "Пры чым" или "не пры чым", а я сказал от имени вооружённых сил и внутренних войск, что они не пройдут!

**Егулагов.** И еврей, между прочим, тоже не пролезут!

*Фельчар Кац са злосцю кідае на стол званок і дэманстратыўна выходзіць.*

**Апякін.** Ну навошта ж вы так, таварыш есаул?! Усе лезуць, ну і яўрэі няхай сабе... Не горшыя ж за іншых...

**Некурвінская.** Пры нашай выбарчай сістэме хутка ніхто, акрамя палкоўнікаў і генералаў, нікуды не пралезе.

**Солдафонов.** Вот когда мы пролезем, вы и вздрогнете по-настоящему!..

**Апякін.** Таварышы, таварышы, ну не трэба ж так палітызаваць...

**Метростроева.** Ничего страшного! Политика – это партия. А партия – это ум, честь и совесть нашей эпохи!

**Некурвінская.** Дык жа эпоха скончылася...

**Сельсаветава.** І ета клізьма супраць калхозаў?! Лучша бы сваю б...кую фамілію зьмяніла, а тагды ўжо і вякавла б.

**Некурвінская.** Ад прафурсеткі чую!

**Апякін** *(плаксіва).* Таварышы, даражэнькія, мы ж так зусім азвярэем і застануцца ад нашага інтэрнацыяналізму адны ашмоткі і аскалёпкі...

**Отец Сергий.** И восстанет брат на брата. И прольётся кровь праведных...

**Казімір Станкевіч.** І ляжа грэх вялік... але не на нашу святую канфесію.

**Апякін.** Таварышы святары, ваша прэпадобіе і ваша экселенцыя, ну хоць бы вы знайшлі агульную мову!.. Рэлігій шмат, але ж Бог адзін!

**Сельсаветава.** А чаму ета агульную?! У нас цяперака слава Богу, два языка!

**Метростроева.** И великий с могучим вам не удушить! Кишка тонка!

**Апякін.** Пабойцеся Бога! Я сам у асноўным пішу на вялікім і магучым, а тыды ўжо нехта перакладае...

**Сельсаветава.** А на ета нам напляваць. І слава Богу, як гаварацьб, што ў Бацькі кішка патолшча. Яшчэ нямножка, яшчэ чуць-чуць і ад вашых беларускіх школак адзін друз останется. Бог бачыць...

**Казімір Станкевіч.** Грэшныя, не ўпамінайце дарэмна імя Божае! Бо наўрад ці ёсць сярод вас сапраўдныя вернікі...

**Метростроева.** А мы твоему Богу не молимся. И наш вождь и учитель не вам ручку целует.

**Семиглазова.** Женщины, милые, ну пождите, ну дайте же глухонемому хоть два слова вставить!.

*Усе здзіўлена замаўкаюць.*

Так вот, товарищ Немцов-Глушкин категорически считает, что в такой стране, как наша, можно вообще без языков и костёлов обойтись. Но депутат в Верховном Совете от общества тугоухих и глухонемых должен быть, как, между прочим, и от нашего общества слепых.

**Солдафонов.** И умственно отсталых! *(Рагоча).*

**Апякін.** І нічога смешнага. Я сам сорак гадоў быў дэпутатам. І ганарарная палітыка пад той час была нармальная.

**Метростроева.** Особенно для народных...

**Апякін.** А зараз мы ўсе жабракі!..

**Сельсаветава.** Агледзеўся манах, што хрэн у галавах.

**Апякін** *(абуральна).* Што значыць у галавах?! Ён у мяне там, дзе яму і належыць быць. А вы, шаноўныя, многа сабе дазваляеце.

**Сельсаветава.** А вы мне глотку не затыкайце, не це ўрэмена.

**Метростроева.** И о гонорарах надо было тогда думать, когда писаки к народу обращались, чтобы он не выбирал того, кто "моўкі не ведае".

**Сельсаветава.** А вот мы яво, у доску нашава, на зло ізбралі і чхаць он ціпер хацел на вашу моўку.

**Солдафонов** *(падхоплівае тэму).* "Талаку" развели!

**Егулагов.** Фронты открыли!

**Солдафонов.** Народ взбаламутили! Армию оплевали!

**Егулагов.** На солдат и сотрудников Комитета Погоню напили!

**Солдафонов.** Против НАТО на лошадке аллюром с сабелькой и крестом?!

**Егулагов.** Я, как есаул, от белорусского казачества и Славянского собора скажу: тюрьма по вас, писаках и революционерах-демократах плачет!

**Некурвінская.** Дык турмы ў нас ужо біткам набіты, больш не лезе.

**Есаул.** расстреливать надо больше, они и посвободнеют. Или концлагеря строить...

**Солдафонов.** Вольёмся в российскую зону – дефицита в концлагерях не будет. Россия-матушка всех, и своих и наших, примет за милую душу.

**Апякін.** Таварышы, ну што вы гаворыце?! Гэта ў нас ужо было, дык ці варта зноў?..

**Сельсаветава.** Варта, бо няплоха було. Мой дзед да етага ўрэмя ў кулацкай хаце жывёць. Дамок – што званок!

**Метростроева.** И буржуйские дачки скоро поделим.

**Сельсаветава.** Усё падзелім!

**Метростроева.** Заводы – рабочим!

**Сельсаветава.** А землю – колхозам!

**Егулагов.** А "творчай і навуковай інтэлігенцыі" – фуфайку і кайло... "няхай твораць". *(Рагоча).*

**Апякін.** Ну, вы ўжо зусім, таварыш есаул... Дыктатура дыктатурай, але ж... трэба неяк памяркоўна. Часы сапраўды іншыя...

**Солдафонов.** Был у нас один "памяркоўны".

**Егулагов.** Да весь вышел...

**Семиглазова.** Только и оставил после себя вот таких Калиновских.

**Некурвінская.** Якім, між іншым, і шыбеніца не страшная...

**Егулагов.** А вот через несколько минут увидим... вздрогнет или не вздрогнет ваш герой.

**Апякін.** Таварышы, таварышы, можа мы і сапраўды яго... хоць асабіста я яшчэ не вызначыўся, але ж нельга выказваць так цынічна. Мы ж, як ніяк, а прысяжныя.

**Доктар Грыц.** А вось гэта ўжо звыш цынізм, спадар Апякін!.. Павесіць чалавека, аказваецца, можна, але лепш моўчкі, без цынізму. Брава, гаспада прысяжныя засядацелі! *(Вельмі рэзка.)* Кастусь Каліноўскі не вінаваты! Кастусь Каліноўскі на гэты раз не можа памерці! Мы, яго суддзі, усе разам узятыя, не варты гэтага чалавека, не кажучы ўжо, што паасобку.

*Паднімаецца страшэнны шум абурэння. З'яўляецца Фельчар Кац. У руках яго дошка з метр даўжынёю. Ён ставіць яе канцом на стол і з сілай апускае другі канец. Раздаецца сапраўдны выбух. Усе заціхаюць бы апрытомеўшы, а Фельчар Кац паволі і вельмі спакойна звоніць у званочак.*

**Кац.** Ну, што, выгаварыліся? Выкрычаліся? Надарвалі пупкі – спусцілі пару. *(Праз доўгую паўзу.)* Салідныя людзі. Эліта! Гонар сталіцы!.. Браткі-славяне, а ўтварылі вэрхал-гармідар як местачковыя жыдкі на кагальным сходзе... Ой-вэй, каб я быў жыў і вы не хварэлі. Бо на парадку дня ў нас тры жыццёвыя пытанні ў літаральным сэнсе гэтага слова. І было тры законных гадзіны часу, каб вынесці вердыкт адзінагалосна – вінаваты той Каліноўскі ці не вінаваты.

Дзве з паловай гадзіны прамітынгавалі халера ведае пра што. Ахалонце ж хоць у апошнія хвіліны, параіцеся з Госпадам Богам і ўласным сумленнем: памерці таму Кастусю, ці няхай сабе жыве. І каб вы ўсе столькі мелі, наколькі я вас разумею...

Пытанне першае: ці ўсведамляў падсудны небяспеку сваіх дзеянняў, наносячы ўдар ў скроню пацярпеламу піўным куфлем?

Пытанне другое: ці меў падсудны намер зрабіць тое, у чым ён абвінавачваецца; ці не здзейсніў ён гэта ненаўмысна, выпадкова?

Пытанне трэцяе: ці хацеў падсудны смерці пацярпелага?

*Зноў усе адразу ўзрываюцца і выказваюцца адначасова.*

**Сельсаветава.** Усведамляў – не усведамляў...

**Метростроева.** Главное, что убил...

**Егулагов** *(здзекліва).* А может, он хотел его погладить... "куфлем"?..

*Уяўленне прысяжных*

**Солдафонов.** Случайно так, невзначай...

**Семиглазова.** Мы не видим и не слышим, но чувствуем, что такой не мог убить. *(Перакладае Нямцову-Глушкіну).*

**Нямцоў-Глушкін** *(мычыць).* Н-н-н! Нин-е! Нин-е!

**Семиглазова.** Ну, как знаете!

**Отец Сергий.** Грешен раб Божий и воздастся ему по заслугам его!

**Казімір Станкевіч.** І падзе грэх вялікі на суддзяў неправедных!

*Безнадзейна трызвоніць фельчар Кац – прысяжныя бушуюць. Заслона паволі закрываецца і адкрываецца зноў. Зала судовага пасяджэння.*

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

# ПЯЦЬ ДЗЁН АДНАГО ТЫДНЯ

**(невялічкія занатоўкі пра тое, як я збіраў подпісы ў падтрымку ініцыятывы ТБМ і ТБШ аб адкрыцці Беларускамоўнага нацыянальнага універсітэта)**

***20 чэрвеня арганізацыі ТБМ і ТБШ закончылі збор подпісаў за Беларускі Нацыянальны Універсітэт. Вынікі пакуль падводзяцца, а мы прыводзім нататкі Фелікса Шкірманкова пра тое, як гэта было ў Слаўгарадзе.***

### З чаго ўсё пачалося?

У адным з нумароў газеты ТБМ "Наша слова", якую я выпісваю ў Слаўгарадзе адзін, быў надрукаваны ўзор падпіснога ліста ад імя ТБМ і ТБШ за стварэнне Беларускага нацыянальнага універсітэта.

Шчыра кажучы, асаблівай увагі адразу я на гэта не звярнуў. Суполкі ТБМ у горадзе няма, дык хто будзе збіраць подпісы?

Ранкам наступнага дня, пакуль гатаваўся снядана́к, узяў у рукі газету, нажніцы, і выразаў узор падпіснога ліста, не ведаючы дзеля чаго гэта раблю. Хутчэй за ўсё – па старой звычцы, на ўсялякі выпадак. Паклаў выразку на свой пісьмовы стол – няхай ляжыць.

Кладучыся спаць, узяў "ЛІМ", каб крыху пачытаць, а перад вачыма падпісны ліст з чыстымі радкамі. Гэта было 20-га сакавіка. Засынаючы, я ўжо ведаў, што буду рабіць наступным днём.

### 21-га сакавіка, дзень першы

Першымі паставілі свае подпісы я і жонка. Пасля сняданку, не паспеў я апрануцца, каб сесці ў свой старэнькі "Запарожац", як заходзіць суседка. Кажу ёй што да чаго, і вось ужо тры подпісы.

Еду па гораду з планам: абавязкова наведаць рэдакцыю раёнкі, РАНА, райвыканкам, цэнтральную бібліятэку і сярэднія школы. А пачаў з Народнага суда. Але там, на жаль, была толькі загадчыца канцыляры. Сама яна руская, але цалкам падтрымлівае пазіцыю дэмакратычнай апазіцыі. Такім чынам дабавіўся яшчэ адзін подпіс.

З чатырма подпісамі вярнуўся дамоў, бо нешта зачхаў мой "мерседэс", і больш у гэты дзень подпісы не збіраў – настрой быў не той.

### 22-га сакавіка, дзень другі

Пачаў з рэдакцыі раённай газеты з неўміручай назвай "Ленінскае Слова" і РАНА – яны ў адным будынку. Адразу зайшоў да намесніка рэдактара Валянціны Язерскай. З ёй ніякіх праблем не магло быць (так і атрымалася). Дарэчы, яна адзіная з калектыву рэдакцыі карыстаецца на працы беларускай мовай. Мы з ёй нават жартуем, што нам абавязкова патрэбна сустракацца, каб практыкавацца ў беларускай мове, бо інакш засісне нас "трасянка", а потым даканае руская.

Паставілі свае подпісы і тры супрацоўніцы рэдакцыі. Якраз у гэты момант у памяшканне зайшоў рэдактар газеты. Знаёмы мы даўно. Нашы бацькі сябравалі. Яго бацька быў рэдактарам раёнкі, а мой – нейкі час працаваў у рэдакцыі літсупрацоўнікам, а потым быў актыўным аўтарам.

Пацікавіўся што адбываецца, патрымаў у руках падпісны ліст і знайшоў зачэпку, каб не паставіць свой подпіс.

- Это профанация, а не сбор подписей!

- У чым ты бачыш прафанацыю?

- Заполняют подписной лист на русском языке, а сами лезут в белорусы!

- Яны хочуць быць сапраўднымі беларусамі, таму і ставяць свае подпісы. А на рускай мове таму, што іх у пятым, а мо ў дзесятым пакаленні прымушалі думаць, чытаць і пісаць не на сваёй роднай мове, але якое гэта мае дачыненне да сутнасці справы? Я ведаю рускіх, якія не валодаюць беларускай мовай, але цалкам падтрымліваюць патрабаванне аб адкрыцці Беларускага нацыянальнага універсітэта, бо лічаць сорамам для дзяржавы, калі ў ёй няма ніводнай вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы з выкладанем усіх прадметаў на мове тытульнай нацыі.

На гэтым наш кароценькі дыялог закончыўся. Рэдактар паклаў падпісны ліст і выйшаў. Я не затрымліваў яго і не прапаноўваў яму паставіць свой подпіс. Ён – рэдактар беларускай газеты, напэўна, не паважае беларускую мову, бо карыстаецца толькі рускай. Таму, калі б ён нават і пакінуў свой подпіс, вага гэтага подпісу была б несувымяральнай. Ну ды Бог яму суддзя.

З рэдакцыі зайшоў у метадычны кабінет РАНА. З пяці кабет чатыры паставілі свае подпісы. Пры гэтым адна з іх слушна заўважыла, што калі б прэзідэнт загаварыў на беларускай мове – адбылася б ланцуговая рэакцыя сярод чынавенства ўсіх узроўняў, і тады не трэба было б збіраць подпісы, бо ўсё вырашылася б хутка і безбалюча.

А вось яшчэ адна, зайшоўшая ў кабінет, калі я ўжо выходзіў, уразіла мяне сваім цемрашальствам. Я не называю яе прозвішча, так як і прозвішча рэдактара раёнкі. У Слаўгарадзе іх і так ведаюць, а ў іншых раёнах і гарадах Беларусі хапае і сваіх цемрашалаў.

Дык вось, гэтая кабета – метадыст РАНА, беларуска, гледзячы цнатлівымі вачамі, адказала:

- А мне это не надо! Я не люблю белорусский язык, у меня с ним всегда были проблемы. И никому он не нужен!

- Ну а калі б да вас звярнуліся з падпісным лістом, у якім трэба было падтрымаць прапанову аб адкрыцці польскай ці яўрэйскай навучальнай установы, як бы вы аднесліся да гэтага?

- Ну и пусть открывают, я бы не возражала...

- Калі ласка, удакладніце: не супярэчылі б ці паставілі свой подпіс?

- Поставила бы, почему нет, раз им хочется...

Я больш не задаваў ёй пытанняў, а хутчэй выйшаў на свежае паветра. Не задаваў, бо адчуваў, што нарастаючае ўва мне абурэнне такім цемрашальствам, такой непрыхаванай варожасцю метадыста РАНА(!!) можа аказаць мне дрэнную паслугу, і я ёй – жанчыне скажу тое, што гаварыць нельга, хаця яна гэтага і заслугоўвае.

Крыху пастаяў, супакоіўся і вырашыў завітаць да загадчыка РАНА. Падняўся на другі паверх, пацікавіўся ў сакратаркі ці ў сябе загадчык. Атрымаўшы станоўчы адказ, адчыняю дзверы ў знаёмы кабінет, які належаў у свой час першаму сакратару райкама КПБ, а цяперашні яго гаспадар – Віктар Андрэевіч Новікаў займаў тады на гэтым жа паверсе значна меншы кабінет загадчыка аддзела райкама.

З Віктарам Андрэевічам мы знаёмы ўжо болей дваццаці гадоў. Якраз з таго часу, як я прыехаў у Слаўград, выйшаўшы на пенсію. У кабінеце той жа доўгі стол, амаль ад уваходных дзвярэй, за якім у тыя часы засядалі члены бюро райкама. Упоперак з ім, як і тады, меньшы стол. Разам яны ўтвараюць літару "Т".

На сцяне, якраз над галавой гаспадара кабінета, каляровы партрэт, у багетавай рамцы, Аляксандра Рыгоравіча. Раней на гэтым месцы быў партрэт Уладзіміра Ільіча.

Пакуль ідзеш ад дзвярэй да стала гаспадара кабінета, хапае часу, каб усё гэта ахапіць вокам.

Мы не сустракаліся ўжо, калі не памыляюся, амаль з год, яшчэ з таго часу, як Віктар Андрэевіч працаваў намеснікам старшыні райвыканкама.

Перакінуўшыся звычайнымі ў такіх выпадках словамі, я патлумачыў Віктару Андрэевічу мэту свайго візіту. Ён адразу ўхапіў галоўны сэнс выкладзенага мной (досвед партапаратчыка!) і ліхаманкава пачаў абдумваць свае першыя словы. Гэта было бачна па таму, як ён без усялякай патрэбы пачаў перакладваць з месца на месца паперы на стале. На твары з'явілася знаёмая ўсмешка, што сведчыла аб прынятым рашэнні. Першыя словы, сказаныя ім, падцвердзілі маю здагадку.

- Якая неабходнасць адкрываць яшчэ адзін беларускі універсітэт, калі ўжо адзін ёсць – Беларускі дзяржаўны універсітэт?

- Назва "Беларускі" сведчыць аб дзяржаўнай прыналежнасці і толькі. А гаворка ідзе аб тым, што ў незалежнай краіне Рэспубліка Беларусь няма ніводнай вышэйшай і нават сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы дзе б выкладанне цалкам вялося на беларускай мове!

- У БДУ ёсць факультэты дзе выкладане вядзецца цалкам на беларускай мове! У Магілёўскім універсітэце таксама...

- Прабачце, Віктар Андрэевіч, гаворка ідзе не пра асобныя факультэты, а пра цалкам універсітэт з выкладаннем усіх дысцыплін на беларускай мове!

Віктар Андрэевіч з задавальненнем засмяяўся:

- І як вы сабе ўяўляеце працэс выкладання ўсіх дысцыплін на беларускай мове, напрыклад, вышэйшай матэматыкі, тэарэтычнай механікі, нарэшце, дзе ўжываюцца тэрміны і паняцці якіх няма ў беларускай мове?

- Віктар Андрэевіч вы насамрэч верыце ў такое, што сказалі? У сусветнай навуцы, да якой належыць і наша беларуская, ёсць шэраг тэрмінаў і паняццяў якія не патрабуюць перакладаў, бо з'яўляюцца міжнацыянальнымі. У медыцыне, напрыклад, у палеанталогіі. Але гэта тычыцца толькі асобных спецыяльных тэрмінаў.

- Дык якое ж гэта будзе выкладанне на беларускай мове?

- Такое ж самае, як для немцаў на нямецкай, для французаў на французскай, для італьянцаў на італьянскай і г.д. Прабачце, Віктар Андрэевіч, але вы наўмысна адхіляецеся ад тэмы. Пакінем закранутую вамі "праблему" на вырашэнне спецыялістаў, а вы мне адкажыце канкрэтна: падтрымліваеце вы прапанову стварэння цалкам беларускамоўнага універсітэта?

І тут Віктар Андрэевіч паказаў такую слоўную эквілібрыстыку, што заставалася толькі пapляскаць яму.

Дзве гадзіны і дзесяць хвілін працягвалася наша сустрэча. На развітанне, стоячы пад партрэтам нелегітымнага прэзідэнта, загадчык Слаўгарадскага РАНА Віктар Андрэевіч Новікаў сказаў, што ў нас для рускай і беларускай моў канстытуцыйна замацаваны аднолькавы правы. Вось толькі ні словам ні абмовіўся паважаны загадчык аб тым, што для выкарыстання аднолькавых правоў дзяржава павінна стварыць і аднолькавыя ўмовы. Калі гэтага няма, як у нашай краіне, ні аб якіх аднолькавых правах не можа быць і гаворкі.

На гэтым закончыўся дзень другі.

### 23-га сакавіка, дзень трэці

Не гледзячы на тое, што першыя два дні прынеслі толькі 20 подпісаў, прачнуўся я ў добрым настроі і, выпіўшы кубак гарбаты, пачаў трэці дзень з цэнтральнай бібліятэкі. Там усе тры супрацоўніцы паставілі свае подпісы.

Паколькі патрэбна было заправіць палівам машыну я вырашыў па дарозе на аўтазапраўку зазірнуць на мясцовую "камароўку". Падышоў да знаёмых хлопцаў. Сказаў, што раблю ўжо трэці дзень. Перадаючы з рук у рукі падпісны ліст, ставілі сваек подпісы знаёмыя і незнаёмыя людзі.

Падышлі два азербайджанцы, якія ўжо некалькі гадоў жывуць у Слаўгарадзе. Калі даведаліся ў чым справа, папрасілі дазволу паставіць і свае подпісы. Пры гэтым толькі сказалі: "Свой родной язык надо уважать".

Раптам адзін з хлопцаў шэпча? "Мянты!". Я абярнуўся і ўбачыў двух міліцыянтаў якія з сумнымі тварамі ад бяздзелля наближаліся ў нашым кірунку. Я зрабіў крок ім насустрач і сказаў:

-Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выступіла з ініцыятывай аб адкрыцці ў Менску Беларускага нацыянальнага універсітэта. Я збіраю подпісы. Вы згодны падтрымаць гэтую ініцыятыву?

Заўважаю разгубленасць на тварах. Адзін з іх незадаволена кажа:

- Нікакога Скарыну я не знаю! – Звяртаюся да другога: - А ты ведаеш хто такі Скарына?

- Чуў пра такога...

- Дык можа паставіш свой подпіс? – Бачу – хлопец вагаецца. Але той другі, пачуўшы маю прапанову, незадаволена кажа:

- Пайшлі!

Хлопцы, што стаялі каля мяне, ад душы смяяліся.

-Уладзіміравіч, ты іх больш так не палохай!

Настрой у мяне ўзняўся, бо ўжо заканчваўся другі ліст, а гэта значыць, што на пяты дзесятак пераваліла.

На аўтазапраўцы сустрэў знаёмага старшыню сельскага савета. Павіталіся, Пацікавіўся ў мяне навінамі. Я і кажу:

- Заходзь да хлопцаў – будуць і навіны.

У каморцы, дзе працавалі запраўшчыкі, было чатыры чалавекі. Я папрасіў заліць у бак 20 літраў бензіну, разлічыўся, адагнаў машыну ад бензакалонкі і тады сказаў чым займаюся апошнія дні. Хлопцы дружна паставілі свае подпісы. І раптам старшыня сельскага савета звяртаецца да мяне:

- Уладзіміравіч, дай мне падпісны ліст, і я збяру подпісы. Калі не хопіць аднаго, я сам зраблю яшчэ.

- Я даў яму падпісны ліст, а сам ад здзіўлення з хвіліну не ведаў, што казаць. Справа ў тым, што пад час выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Савет у 1990 годзе я быў кандыдатам у дэпутаты, а гэты чалавек (ён тады працаваў старшынём сельскага савета) агітаваў супраць маёй кандыдатуры, і асабіста сам здзіраў агітацыйныя ўлёткі, якія расклейвала мая група падтрымкі. Няўжо ўрэшце прасвятлела ў сумленні гэтага чалавека?

Пайшла гаворка пра жыццё. І я зразумеў, што гэта ўжо якасна іншы чалавек. Не, ён яшчэ не даспеў да адкрытага пратэсту, бо добра ведае чым гэта для яго абернецца. Але сёння ён ужо не будзе зрываць улёткі.

У добрым настроі закончыў я трэці дзень збору подпісаў





# ПЯЦЬ ДЗЁН АДНАГО ТЫДНЯ

**(невялічкія занатоўкі пра тое, як я збіраў подпісы ў падтрымку ініцыятывы ТБМ і ТБШ аб адкрыцці Беларускамоўнага нацыянальнага універсітэта)**

### 24-га сакавіка, дзень чацвёрты

Так атрымалася, што з запланаванага на гэты дзень я выканаў толькі палову. Планаваў сабраць подпісы ў настаўнікаў дзвюх сярэдніх школ, але не атрымалася.

Пачаў з сярэдняй школы №2. Некалі яна была беларускай, а цяпер і першая і другая сярэднія школы рускія. Пачаў з другой, бо там вучылася мая сястра, і на школьнай дошцы гонару яе прозвішча пачынае спіс медалістаў. Яна закончыла школу з срэбным медалём у 1954 годзе.

У настаўніцкай я расказаў дырэктарцы з якой мэтай завітаў у школу. Знешне я не мог вызначыць, як яна ставіцца да збору подпісаў. Сказала, што трэба пачакаць перапынку.

Празвінеў званок і ў настаўніцкую пачалі ўваходзіць настаўнікі. Былі сярод іх асабіста знаёмыя. Дырэктарка літаральна ў дзвюх словах сказала з якой мэтай я прыйшоў да іх. Мне засталося крыху дапоўніць яе, і я запрасіў тых хто падтрымлівае гэтую акцыю паставіць свой подпіс.

Два ці тры настаўнікі выказалі словы падтрымкі, а астатнія моўчкі запісвалі свае прозвішчы і ставілі подпіс. Празвінеў званок на ўрок. Частка настаўнікаў засталася, каб паставіць свой подпіс, а частка пачала выходзіць з настаўніцкай.

Цяжка сказаць чаму не ўсе затрымаліся: ці то звычка пачынаць урок без затрымкі, ці званок дапамог тым хто вагаўся прыстойна выйсці з непрыемнага для іх становішча. Але як бы там ні было, а большасць настаўнікаў паставілі свае подпісы, і я ў добрым настроі паехаў у школу №1, што ў другім канцы Слаўгарада.

Праязджаючы каля будынка ў якім месціцца раённая арганізацыя БПСМ, раптам падумаў: "А чаму б не завітаць да беларускіх патрыётаў? Як падумаў, так і зрабіў.

На месцы застаў чатырох прыгожых дзяўчат. Я не стаў распытваць хто з іх першы, хто другі сакратар (на шыльдацы быў распісаны увесь табель аб рангах), а запытаў, нібыта не ведаючы:

-БПСМ – гэта Беларускі Патрыятычны Саюз Моладзі? Я правільна разумею?

- Так правільна!

- Ну тады вы абавязкова падтрымаеце тое з чым я да вас завітаў! – і наколькі ж прыемным было маё здзіўленне, калі яны, выслухаўшы мяне, з задавальненнем паставілі свае подпісы.

А потым у нас адбылася гаворка аб паняццях патрыятызму, беларускай нацыянальнай ідэі. Прыемна, канешне, мне было пачуць ад іх, што яны чытаюць "Народную волю".

І я не вытрымаў і спытаў:

- Толькі шчыра: ці падабаюцца вам мае вершы?

- Вельмі падабаюцца! Ведаеце, Фелікс Уладзіміравіч, у душы ўздымаецца хваля гонару калі ў "Народнай Волі" чытаем прозвішча аўтара – ваша прозвішча, бо вы наш зямляк!

А я з задавальненнем падумаў, развітваючыся з імі: "Не, не будуць яны скакаць пад сумніўную музыку!".

Вось з-за гэтых прыгожых, разумных дзяўчат я спазніўся ў гэты дзень у школу №1.

### 25-га сакавіка, дзень пяты і апошні

Не ведаю дакладна колькі настаўнікаў працуе ў гэтай школе. Я сядзеў у настаўніцкай і гутарыў са знаёмай настаўніцай, дачкой нашай добрай суседкі. Пачалі заходзіць настаўнікі. Тамара Міхайлаўна запрашала кожнага да нашага століка і прапаноўвала паставіць свой подпіс. Усё ішло амаль так, як і ў школе №2., за выключэннем таго, што не было дырэктара. Было і яшчэ істотнае адрозненне. Настаўніца беларускай мовы і літаратуры адмовілася паставіць свой подпіс...

Але гэта ўжо не магло сапсаваць мне настрой, бо агульны малюнак я ўжо бачыў. І ён быў неблагім.

Чым усё скончылася?

Скончылася, як я лічу, добра. Па-першае, не трапіў у міліцэйскі пастарунак, а такое ў наш час не выключана.

Па-другое, за пяць дзён сабраў адзін сто подпісаў. А калі б у Слаўгарадзе была хаця б невялічкая суполка ТБМ, то гэтых подпісаў было б многа болей.

Шкадую, што не змог ахапіць гэтай справай сельскія беларускамоўныя сярэднія школы. Не па кішэні бензін пенсіянеру. А менавіта выпускнікі сельскіх беларускамоўных школ з-за адсутнасці ў краіне беларускамоўных ВНУ пры паступленні ў інстытут трапляюць у значна горшыя ўмовы ў параўнанні з выпускнікамі рускамоўных гарадскіх школ.

Нехта скажа, што ва ўсіх гуманітарных ВНУ ёсць факультэты беларускай мовы і літаратуры. Але ці ўсе выпускнікі беларускамоўных школ абіраюць для сябе прафесію філолага? А як быць тым каго цікавіць тэхніка ці медыцына?

Хочацца верыць, што ў гэтых сельскіх беларускамоўных школах колькасць подпісаў у падтрымку ініцыятывы ТБМ і ТБШ аб адкрыцці беларускамоўнага універсітэта будзе значна большай. Але апытанне, на маю думку, трэба рабіць не толькі сярод настаўнікаў, а і сярод вучняў выпускных і перадвыпускных класаў, бо праблема паступлення непасрэдна кранае іх.

Вяртаючыся да адсутнасці ў Слаўгарадзе суполкі ТБМ, не хачу ўскладаць віну за такі заняпад пачуцця ўласнай годнасці, пачуцця прыналежнасці да Беларусі не як геаграфічнага паняцця, а як да Еўрапейскай дзяржавы з багатай гістарычнай спадчынай, ні на настаўніцкае асяроддзе, ні на кіраўніцтва ТБМ, ні на вядомых дзеячоў беларускай літаратуры і мастацтва (ніхто з дзвюх апошніх катэгорый не зазірнуў у Слаўгарад), ні рабіцца паслядоўнікам Чэхаўскай гераіні, якая сама сябе адлупцавала.

Усё шмат складаней. Бессаромная хлусня афіцыйных СМІ, пераследы патрыётаў, рэальная пагроза пазбавіцца працы, трапіць за краты – усё гэта запалохала, на жаль, большасць людзей (менавіта большасць!). І яны баяцца адкрыта сказаць тое, што думаюць пра рэжым у краіне. Яны падтрымліваюць патрыятычныя погляды, але не выходзячы з уласных кватэр, кіруючыся вядомым выразам, што мая хата – мая цытадэль.

Вось чаму нават у сталіцы колькасць удзельнікаў вулічных акцый пратэсту далёка не дацягвае да той крытычнай масы, якую ўжо ніякія АМАП-ы не змогуць стрымаць, а калі паспрабуюць пусціць у ход спецсродкі, хваля народнага гневу змяце любы антынародны рэжым.

Як проста ўсё і як складана...

*Фелікс Шкірманкоў,*
*ветэран Вялікай Айчыннай вайны, г.Слаўгарад*
*26 сакавіка 2000 г.*

---

*Юры Грыбоўскі, сябра Вайскова-геральдычнай падкамісіі ТБМ*

# ЯК І ДЗЕ ВАЯВАЛІ БЕЛАРУСЫ НА ЗАХОДНІХ ФРАНТАХ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ?

Падчас другой сусветнай вайны беларусы змагаліся з гітлерызмам не толькі ў шэрагах адной Чырвонай Арміі. Нашы землякі баранілі сваю Бацькаўшчыну далёка па-за межамі Беларусі. Акрамя ўдзелу савецкіх ваеннапалонных беларускага паходжання ў руху Супраціву шэрагу еўрапейскіх краін, якія апынуліся ў Францыі, Італіі, Югаславіі і інш., беларусы як сталыя вайскоўцы Брытанскіх войск прымалі ўдзел у баях з гітлераўцамі ў Паўночнай Афрыцы і Італіі. Большасць з іх – жыхары Заходняй Беларусі, якія апынуліся ў шэрагах войск заходніх саюзнікаў прайшоўшы жахі сталінскіх лагераў, а пасля савецка-польскай дамовы аб фармаванні Польскага войска на тэрыторыі СССР, як былыя грамадзяне 2-ой Рэчы Паспалітай былі залічаны ў Армію Андэрса. У складзе гэтага войска яны на працягу 1942 года эвакуіраваліся ў Іран, а адтуль у – Ірак, Палестыну, Егіпет.

Беларусы з ліку вайскоўцаў Асобнай Брыгады Стральцоў Карпацскіх, якая пачала фармавацца ўзімку 1940 года ў Сібіры, бралі ўдзел у баях з нямецка-італьянскім афрыканскім корпусам генерала Ромеля на тэрыторыі Паўночнай Афрыкі, аб чым сведчаць ганараванні нашых землякоў брытанскай вайсковай ўзнагародай "Зорка Афрыкі". Жаўнерам беларускага паходжання давялося ўдзельнічаць у абароне г. Торбука (Лівія) у 1941 годзе, пры тым на найскладаным прагалку абарончых умацаванняў саюзнікаў.

Адной з бліскучых баявых старонак беларускай вайсковасці сталася Італьянская кампанія (1943-1944), дзе беларусы паказалі сябе, як здольныя і мужныя жаўнеры. На гэты момант эвакуіраванае з СССР Польскае войска было перафармавана ў 2 Польскі Корпус. Пад час адной з найвядомых бітваў Італьянскай кампаніі – штурму Монтэ-Касіна, якая з'яўлялася ключавым пунктам нямецкай абарончай лініі "Густава" зачыняючай далейшы шлях саюзнікаў на Рым, вайскоўцы беларускага паходжання знаходзіліся ў авангардзе бойкі. Адзін з праваслаўленых беларусаў здзейсніў подзвіг пад час адной з вырашальных атак і, неўзабаве, быў узгаданы польскім гісторыкам Ваньковічам у кнізе "Бітва за Монтэ-Касіна". Пра чынны ўдзел і геройства ў часе бітвы пад Монтэ-Касіна сведчыць той факт, што на тамтэйшых вайсковых могілках пахавана каля трохсот жаўнераў беларускага паходжання, што складае – 24% ад агульнай колькасці пахаваных. Нашы землякі ўдзельнічалі ў баях з гітлераўцамі на Апенінскім паўвостраве да канчатковай капітуляцыі нямецкай групоўкі ў Італіі ў красавіку-траўні 1945 года.

Апрача ўдзелу ў баях на вышэйпералічанных тэатрах ваенных дзеянняў Другой сусветнай вайны, беларусы па паходжанні ваявалі ў іншых частках і злучэннях Польскіх Сіл Збройных на Захадзе (ПЗСЗ) пад Брытанскай камандай, што кватэраваліся на Брытанскіх выспах. У прыватнасці, з упэўненасцю магчыма казаць пра прысутнасць беларусаў сярод лётчыкаў ваенна-паветраных сіл заходніх саюзнікаў якія ўдзельнічалі ў бамбаваннях гітлераўскіх вайсковых аб'ектаў у Нямеччыне. Адным з гэткіх пілотаў быў уражэнец Мядзельшчыны – Казімір Яновіч.

На жаль, вельмі мала вядома пра нашых землякоў, якія прымалі ўдзел у Другой сусветнай вайне ў складзе войск ЗША, з ліку беларусаў у першым пакаленні, што ў міжваенны час эмігравалі з Заходняй Беларусі – у ЗША. Дакладна вядомыя некаторыя прозвішчы амерыканскіх беларусаў падчас высадкі ў Нармандыі 6 чэрвеня 1944 года, а таксама, якія ўдзельнічалі ў іншых ваенных аперацыях амерыканскага войска. За сваю адвагу і вычыны яны былі адзначаны шэрагам вышэйшых амерыканскіх вайсковых ўзнагарод. Так, напрыклад, беларус Уладзімір Каваленка быў ганараваны Найвышэйшым Крыжам Ваенна-Паветранага флоту. Такіх беларусаў, якія вызначаліся на франтах паводле амерыканскіх тымчасовых перыёдыкаў, былі сотні.

Большасць нашых землякоў былі шараговымі. Але трапляюцца і тыя, хто меў афіцэрскую годнасць. Іншая рэч, што яны асцерагаючыся пераследу з боку таго ж польскага вышэйшага камандавання, дзе панавалі шавіністычныя погляды, не выказваліся галосна наконт іх беларускага паходжання. Да ліку апошніх можна аднесці генерала Нікадыма Сулік-Сарноўскага, які камандаваў 5-ай Крэсавай Дывізіяй Пяхоты (5 КДП), сярод асабовага складу якой было каля паловы беларусаў.

Што тычыцца колькасці нашых землякоў у шэрагах войск альянтаў, то – пытанне застаецца адчыненым. Былы вайсковец ПЗСЗ Віктар Сянкевіч мяркуе, што іх было звыш 30 тыс., з якіх на розных франтах загінула не менш, як – 2 тыс. Як бы там не было, але ўдзел беларусаў на заходніх франтах Другой сусветнай вайны, які не з'яўляеўся прыватным выпадкам, а быў даволі масавай з'явай, сведчыць пра тое, што нашы землякі чарговы раз пераканалі свет у сваёй годнасці і здольнасці бараніць Бацькаўшчыну не толькі на баку адной дзяржавы.

# Давайце спяваць па-беларуску

Весела




## Мае вочы чорныя

**Песня з рэпертуару ансамбля "Сьвята"**

Мае вочы чорныя,
чорныя, чорныя,
Мае вочы чорныя, чорныя.
Кепска мне жыць з вамі *3 р.*
Кепска мне.

Ой, радзіла мяне маці,
мяне маці, мяне маці
Ой, радзіла мяне маці, мяне маці,
Долі не дала *3 р.*
Не дала.

Як вазьму я сваю долю,
сваю долю, сваю долю,
Як вазьму я сваю долю, сваю долю,
У лузе закапаю *3 р.*
У лузе.

Мяне хлопцы не чапайце,
не чапайце, не чапайце,
Мяне хлопцы не чапайце, не чапайце.
Пасагу не маю *3 р.*
Не маю.

Паўтор 1 куплета.

# Жывая кніга прыроды

**Для педагогаў дашкольных установаў. Укладальнік Ірына Марачкіна**

### ЛЕТА. ЧЭРВЕНЬ

ЧЭРВЕНЬ. Назва месяца тлумачыцца чырвоным колерам, які набываюць некаторыя ягады менавіта ў гэтыю пару.

У чэрвені сонейка ўзнімаецца ў неба вельмі высока і пасылае на зямлю шмат цяпла. Аднак гэты месяц багаты на розныя неспадзяванкі. Часам здараюцца моцныя вятры, засухі і лівні, начныя замаразкі і нават снег.

22 чэрвеня – самы доўгі дзень і самая кароткая ноч. У народзе кажуць: сонца павярнула на зіму, а лета – на гарачыню.

Чэрвень – месяц кветак. Лугі ў гэты час нагадваюць стракаты дыван. Цвітуць рамонкі, незабудкі, смолкі, валошкі, канюшына і іншыя расліны.

На палях красуе жыта, а ў лесе вырастаюць першыя летнія грыбы-каласавікі: баравікі, падбярозавікі,



падасінавікі. На лясных палянках спеюць першыя суніцы.

Паступова сціхаюць вясёлыя птушыныя спевы. Выклёўваюцца маленькія птушаняты, якія ўвесь час просяць есці. Таму птушкі цэлымі днямі лятаюць у пошуках корму. Шмат шкодных насякомых знішчаюць яны ў гэтыя летнія дні. У чэрвені паяўляюцца на свет вожыкі, лісяняты і зубраняты.

### ЦЁЦЯ

ЦЁЦЯ – багіня лета, жонка Перуна. Па мужу яе называюць Грамавіцаю. Цёця адрозніваецца ад Лялі, багіні вясны, тым, што крыху старэйшая. Цёця – гэта ўжо не маладзенькая, зграбная, тоненькая дзяўчына, а мажная, пажылая, поўная жанчына са спелымі каласамі на галаве і з пладамі ў руках. Цёця сходзіць на зямлю, каб упрыгожыць яе зеленню і кветкамі.

*З беларускай міфалогіі*

### ЧЭРВЕНЬ

Чэрвень –
Чырвань,
Расквітнеўся
Чабарок.
Выйшаў Янка
На палянку
Збіраць ягады
Ў збанок.
А суніцы,
Як ліхтарыкі,
Гараць,
-Вунь лісічкі
Невялічкі! –
Дзеці голасна
Крычаць.
Чэрвень –
Чырвань.
Сонца свеціць.
Чэрвень –
Першы
Летні месяц.

*Авяр'ян Дзеружынскі.*

### ЗОРКІ

Зоркі, зоркі-самасейкі
Ночку ўсю мігцяць, мігцяць.
Як натомяцца іх вейкі,
Пачынаюць зоркі спаць.
І не чуюць, - грукай, ляпай, -
Як Мядзведзіца тады
Іх зграбае мяккай лапай,
Коўш прыўзняўшы залаты.
Як кудысьці з ім знікае –
У пустыню ці ільды
За далёкім небакраем –
Немаведама куды!
А мінае дзень, згасае,
Зноў Мядзведзіца з каўша,
Глянь ты, зоркі вытрасае, -
Аж любуецца душа!..
І мігцяць зноў над пагоркам
Зоркі ў дружнай грамадзе,
І ніяк не ўспомняць зоркі,
Дзе праспалі светлы дзень?..

*Алег Лойка.*

### ЛЕТА

Прыйшло лета. Куды ні глянь – усюды зелена, усё расце, усё наліваецца. Лісце на дрэвах вырасла на ўвесь рост свой і трапечацца на сонцы. Весела пазірае стары лес, што разросся за сялом і цягнецца на краях поля... Кусты арэшніку, рабіны, чаромхі густа разрасліся ўнізе і далёка параскідалі свае зялёныя галіны. Так зелена, так густа, што, здаецца, не пралезеш у лес! Птушкі аж глушаць сваімі галасамі, сваім шчэбетам. Некаторыя, раннія, ужо вывелі дзетак і клапатліва шчабечуць каля сваіх гняздзечак, як нянькі каля калыскі...

Густая, высокая трава, як мора, калышацца на ветры. А кветак, кветак! Якога толькі колеру не найдзеш тут кветак! Мільёны пчолак, чмялёў уюцца над імі са звонам і шумам. Так і цягне на прывольны луг, дзе так многа кветак, птушак, усякіх конікаў і матылёчкаў, песень, шуму і звону, дзе так прахалодай дыхае чысты, свежы ветрык.

Шчыраю рукою ўбрала лета ўвесь Божы свет.

*Якуб Колас.*

### ПЯРУН

ПЯРУН – Бог нябеснага агню. Пярун, паводле ўяўленняў беларусаў, велічны, статны, высокага росту з чорнымі валасамі і доўгай залатой барадою. Седзячы на вогненнай калясніцы, ён раз'язджае па небе, узброены лукам і стрэламі. Яго грымотны лук – каменны молат. Яго стрэлы – маланкі. Адным ударам свайго каменнага молата Пярун разбівае хмары. Чэрці бягуць на зямлю, але і тут іх даганяюць стрэлы Перуна. Чорт любіць хавацца пад дрэвам, таму небяспечна станавіцца пад дрэвы, каб схавацца ад дажджу: замест чорта Пярун можа забіць чалавека. Пры громе і маланцы трэба жагнацца, каб адагнаць ад сябе чорта.

*З беларускай міфалогіі.*

### СОНЦА

Сонейка свеціць
Ад ранку да вечара,
Сонейка грэе
Ад ранку да вечара
І не таму,
Што рабіць яму нечага.
Хоча яно,
Каб шумелі сады,
Каб у садах спелі
Дзецям плады,
Каб колас у полі
Хіліўся к раллі,
Каб травы раслі
І каб кветкі цвілі,
Каб людзі шчасліва
Жылі на зямлі.

*Іван Муравейка.*

### ВЯСЁЛКА

Уверсе шалік новы,
Прыгожы, каляровы,
Апусціўся ля ракі.
Пабягу я напрасткі,
Адарву яго хоць крышку,
Эх, і шалік будзе Мішку!

*Ніна Галіноўская.*

### НОЧКА

Сонца палючае,
Сонца жывучае
Скончыла дзённы абход.
Зорачкі ясныя,
Зоркі бліскучыя
У небе вядуць карагод.
Месячык беленькі,
Месячык чысты
З хмарак свой твар паказаў.
У рэчцы празрыстай,
У рэчцы спакойнай
Хор вадзяны запяяў.
Дрэўцы купчастыя,
Дрэўцы зялёныя
У люстра глядзяцца вады.
Жабкі рухлівыя
Жабкі вясёлыя
Скачуць туды і сюды.
Летняя ночка,
Як маці, калыша
Стомлены працай народ.
Зорачкі ясныя,
Зоркі бліскучыя
У небе вядуць карагод.

*Сяргей Новік-Пяюн.*

### СУНІЧКА

Ганна сунічку
Знайшла на паляне.
Кажа сунічка-гарэзніца
Ганне:
-Мне пакланіся
Ты па ахвоце.
Стане
Салодка-салодка
У роце.

*Мікола Мятліцкі.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 26. 06. 2000 г.
Наклад 3200 асобнікаў. Замова № 1702
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 147 руб., 3 мес.- 441 руб.
*Кошт у розніцу:* 35 руб.